*«Усё трымаецца на жаданні людзей рабіць сваё жыццё лепшым».*

**Алена Лявончанка**



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

**Мінскі гарадскі суд скасаваў рэгістрацыю арганізацыі «Звяно». Ціск на арганізацыю і асабіста на яе заснавальніцу Таццяну Гацуру-Яворскую пачаўся пасля выставы «Машына дыхае, я не», прысвечанай беларускім медыкам, якія змагаліся з COVID-19.**





**У Брэсце асудзілі восьмую групу фігурантаў «карагоднай справы»: шэсць абвінавачаных атрымалі ад 1,5 года «хіміі» і «хатняй хіміі» да 1 года і 7 месяцаў калоніі.**

**У шклоўскай калоніі за адказы на лісты салідарнасці палітвязняў караюць ШІЗА.**

# 2. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ

**Алесю Бяляцкаму прад’явілі абвінавачванне па артыкуле Крымінальнага кодэкса — ч. 2 арт. 243 (ухіленне ад выплаты падаткаў). Санкцыя па гэтым артыкуле прадугледжвае пакаранне ў выглядзе абмежавання волі да 5 гадоў або пазбаўленне волі на тэрмін ад 3 да 7 гадоў.**





**Уладзіміру Мацкевічу, філосафу і метадолагу, заснавальніку Лятучага Універсітэта, падоўжылі тэрмін знаходжання пад вартай яшчэ на месяц. Ён прабудзе за кратамі як мінімум да 4 лістапада.**

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ




**У Ганны Янкуты,**
**пісьменніцы і перакладчыцы,**
**сябры Беларускага ПЭНа,**
**выйшла новая дзіцячая кніга**
**ў аўдыёфармаце.**

**Трэцяя анлайн-дыскусія ў межах сёлетняй прэміі Гедройца была прысвечаная сумеснаму пошуку адказу на пытанне «Ці ёсць жыццё пасля ўручэння Гедройца?»**




**Падведзеныя вынікі**
**Прэміі Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі**
**за найлепшыя навуковыя публікацыі 2020 года.**



Прэм’ера песні «Любимую отдают» — прадукт творчай супрацы Наталлі Эльсан і Эдвінаса Мінсксцімаса.

У Заслаўі адчыніцца музей маляваных дываноў.






Францішак Жылка, краязнавец, выдаў кнігу «Млынарства ў Беларусі: гісторыя і сучаснасць».

**Прэзентацыя выдання палескамоўнай кнігі апавяданняў і вершаў «Оньдэ» Аляксея Дзікавіцкага, беларускага журналіста, адбылася ў Вільні.**





**Вышыўка Руфіны Базловай «Алесь Пушкін» з серыі «Гісторыя беларускай выжыванкі» выстаўлена на дабрачынны аўкцыён.**

**Распачаліся заняткі курсаў «Мова нанова з Варшавы».**






**Абвешчаны**
**<u>кароткі спіс</u>**
**прэміі Гедройця.**




**Журы зацвердзіла <u>кароткі спіс</u> намінантаў і намінантак на прэмію імя Карласа Шэрмана для перакладчыкаў і перакладчыц.**




**Музычна-танцавальная імпрэза з удзелам беларускіх гуртоў Lity Taler і Javaryna, а таксама «першай скрыпкі беларускага пратэсту» Таццяны Грыневіч адбылася ў Варшаве.**




**Кірыл Валошын**, сузаснавальнік Tut.by, разам з **Валянцінай Чудук**, прафесійнай танцоркай і псіхолагам, пачалі выкладаць у Вільні сацыяльныя танцы. Гэта дапамагае ім знаходзіць апору і пераключыць увагу з дрэннага.

Прэм’ерны паказ фільма **Галіны Адамовіч** «Страла» пра абрад «Пахаванне стралы», які ладзіцца ў беларускіх вёсках, адбыўся ў Мінску.





Праект «**Аблічча жаночага пратэсту**» — уцякачкі з Беларусі шыюць дызайнерскае адзенне ў Кіеве.

Незалежная тэатральная група «Купалаўцы» і падкаст-праект «3 акт» прадставілі аўдыяспектакль паводле апавядання Уладзіміра Арлова «Ордэн Белай Мышы».







Праект у межах тыдня супраць смяротнага пакарання: «Страчаныя лёсы Беларусі» — гісторыі 15 выбітных гістарычных дзеячоў і дзяячак, якія былі асуджаны да смяротнага пакарання ў розныя часы і за розную дзейнасць, якая на той момант была забаронена законам.

З'явіўся новы забаўляльны, навучальны, развіццёвы канал «Бэйбус» для дзетак.






Артысты Перамогі LIVE: Андрусь Такінданг (RECHA). Падтрымаць нескароных культурных дзеячаў ды іх новыя праекты.

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

**<u>Воля Іоль</u> — музыка, фатографка, якая вымушана з’ехала з Беларусі:**
***«Да такіх перамен не была гатовая ні маральна, ні фізічна, ні матэрыяльна. Калі выпраўляешся ў падарожжа, ты гатовы і да рызык, і да нейкіх экстрэмальных нават умоў. Усё ўспрымаецца інакш. Але калі ты з’язджаеш вымушана, то трапляеш у нейкую дэпрэсіўную яму. У Мінску ў мяне была камфортная кватэра, праца ў мадэльнай школе і шмат заказаў. Тут — нічога гэтага няма»*.**





**<u>Аляксандр Ждановіч</u>, актор і тэлевядоўца:**
***«Што значыць быць «тут»? Нядаўна прачытаў цікавае параўнанне: гэта значыць жыць у пакоі, ведаючы, што недзе пад ложкам схавалася атрутная змяя, якая можа ўкусіць у любы момант. Ці можна жыць у такім пакоі? Напэўна, можна. Што дае гэта? Магчыма, выхоўвае нейкае экзыстэнцыяльнае стаўленне да страху, пераадоленне яго»*.**

**<u>Барыс Пятровіч</u>, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў:**
***«Ні Сталін, ні Брэжнеў, ні Андропаў не закрылі Саюз пісьменнікаў, і толькі беларуская ўлада зрабіла гэта»*.**





**Андрэй Куціла, рэжысёр дакументальнага фільма «Калі кветкі не маўчаць»:**
***«Я знясілены працай над тэмай, хочацца ўзяць перапынак. Але як зрабіць гэта, калі кожны дзень думаеш пра лёсы беларусаў, рэпрэсіі, што ўсё працягваецца…»***



**Лявон Баршчэўскі, перакладчык, сябра Рады Беларускага ПЭНа:**
***«Арганізацыя патрэбная, каб бараніцца, бо супольна адбівацца лягчэй, а таксама дзеля таго, каб падтрымаць адзін аднаго, калі тое неабходна. Сімвалічны характар таксама важны. Але я разумею калег, якія прыйшлі рабіць гэтую арганізацыю дзейнай, а не проста закрытым клубам. Мне гэта падабаецца, бо тут рэальныя праекты, рэальная праца і дапамога творчым людзям. Таму я б сказаў, што перафарматаванне ПЭНа ў гэтай сітуацыі і актывізацыя вельмі практычных аспектаў дзейнасці — вельмі патрэбныя, і я зычу поспехаў камандзе, упэўнены — шмат што атрымаецца».***

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**Еўрапейская пісьменніцкая рада выказвае падтрымку Саюзу беларускіх пісьменнікаў, ліквідаванаму рашэннем Вярхоўнага суду 1 кастрычніка.**



**«Нябачная траўма» — праект, прадстаўлены на фестывалі ў Людвігсбургу (Германія) — гэта другая частка маштабнага праекту Echoes. Voices from Belarus, створанага Christine Fischer — калежанкай Марыі Калеснікавай.**

**«Беларуская акадэмія», якая адкрылася на пачатку году і працуе дыстанцыйна ў партнёрстве з трыма навучальнымі ўстановамі Польшчы, атрымала афіцыйны дазвол на беларускамоўнае навучанне.**



**Фільм Аляксея Палуяна «Кураж» (Courage) адабраны ў праграму Амстэрдамскага кінафестывалю дакументальных фільмаў.**

**Дакументальны фільм Андрэя Куцілы «Калі кветкі не маўчаць» трапіў на прэстыжны Warszawski Festiwal Filmowy, і яго паказалі ў «Кінатэцы» ў Палацы культуры і навукі 9-11 кастрычніка.**






**Дакументальны фільм «Чысцец» пра транзітных уцекачоў у Брэсце, праца Тані Сверэпы, беларускай рэжысёркі, быў адабраны на MAX Diversity Film Festival.**

**Музыка Вольгі Падгайскай, Канстанціна Яськова і трэцяга кампазітара, імя якога не называецца, а таксама вершы Вальжыны Морт, Альгерда Бахарэвіча і Веры Жыбуль гучалі ў Мюнхене 9 кастрычніка.**





**Анімацыйны фільм «Аніматары — Беларусі» стаў пераможцам фестывалю Facade Video Festival, якія прайшоў напрыканцы верасня ў Плоўдзіве, Балгарыя.**

# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**По стану на 10 кастрычніка ў Беларусі 801 чалавек прызнаныя палітычнымі зняволенымі, іх колькасць па-ранейшаму працягвае павялічвацца. Гэта, безумоўна, сведчыць пра тое, што ціск і рэпрэсіі з боку ўладаў не толькі не спыняюцца, але і набіраюць моц.**

**Беларускі ПЭН-цэнтр як аб'яднанне літаратараў асабліва заклапочаны лёсам дзеячаў культуры, якія несправядліва апынуліся за кратамі. У кастрычніку 4 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Андрэй Пятроўскі, былы настаўнік гісторыі і грамадазнаўства са Смаргоні (5 кастрычніка); Аляксандр Нурдзінаў, мастак (11 кастрычніка); Анжаліка Борыс, старшыня "Саюза палякаў Беларусі" (14 кастрычніка) і Павел Мазько, дызайнер адзення (21 кастрычніка).**

**Адрасы для лістоў:**

**Андрэю Пятроўскаму – Турма №1. 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1;**

**Аляксандру Нурдзінаву – ПК №1. 211440, г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8;**

**Анжаліцы Борыс – Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А;**

**Паўлу Мазько – СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.**

